**Цана 30 мк.**

Год I. Вільня 24 верасьня 1922 г. № 4.

# ВЫЗВАЛЕНЬНЕ НАРОДУ

## Тыднёвая Народная Газэтка

**Орган П. Н. П. „Вызваленьне“ Віленскай і Наваградзкай земляў.**

| | | |
|---|---|---|
| Цана нумару 30 марак.<br>Газэтка каштуе з паштовай перасылкаю, ў месяц 150 марак.<br>Без паштовай перасылкі ў месяц 100 марак. | Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Мастовая вул., 1, Народны Дом „Одродзэне“. Тэлефон 618.<br>Рэдакцыя адчынена ад 1—2 і 4—6 г. | **Абвесткі:**<br>Цэлая старонка . . . . . 10.000 мк.<br>1/2 старонкі . . . . . . 5.000 „<br>1/4 „ . . . . . . 3.000 „<br>Дробныя абвесткі . . . па 100 „ за радок |

*Кіраўнік Рэдакцыі:* ***ЛЮДЗЬВІК ХАМІНСКІ пасол Сойму.*** *Сябры Рэдакцыі: С. Ваяводзкі, Ф. Галавач, С. Вальлін, В. Шакун, Б. Ігнатовіч, П. Жынь, Я. Драздовіч. М. Дзварэцкі, А. Шапель.*

## „Вызваленьне“ і беларускі народ.

Усім ведама, як „Вызваленьне“ глядзіць на беларускую справу. Усім ведама, што „Вызваленьне“ заўсёды было гарачым, сапраўдным прыяцелем беларускага люду, шчыра жадала беларускаму народу поўнай волі, галасна і адкрыта бараніла беларусаў, украінцаў і літвіноў, калі іх крыўдзілі. Усім вядома вялікая прамова пасла-вызваленца Рудзінскага, у якой ён абвінавачываў польскі ўрад і польскіх паноў за пакрыўджаньне беларускага народу. За гэтую яго прамову буржуазія, ды польскія землеўласьнікі ненавідзяць пасла Рудзінскага і „Вызваленьне“, безупынна называюць нас здраднікамі і бальшавікамі, безупынна цкуюць на нас паліцыю і суды.

Гэтак сама ўсім ведама, што калі недзе прасьледавалі беларускую школу, ці зачынілі коопэратыў, ці пакрыўдзілі ксяндза-беларуса — „Вызваленьне“ заўсёды бараніла і часта прыходзіла з падмогай.

Калі Вызваленцы даведаліся, што ў лагеры для інтэрнаваных у Стжалкове бяз дай прычыны сядзяць людзі з тутэйшай старонкі, дык зараз жа паехалі туды нашы паслы, пратэставалі перад урадам, нарабілі шуму ў Сойме, і колькі тысячаў бедных зморaных ды галодных людзей (галоўным чынам праваслаўных) было звольнена са Стжалкова. Калі хацелі недзе адабраць ад праваслаўных царкву і перарабіць яе на касьцёл — „Вызваленьне“ пратэставала і не дапусьціла да няспраўядлівасьці; гэтак сама, як вызваленцы-zaraniarzy змагаліся з царскім урадам, калі ён крыўдзіў каталікоў.

Калі паны і польскі ўрад, ня хочучы чапаць панскія маёнткі ў Польшчы, каб надзяліць зямлёй бедных заслужаных жаўнераў, пачалі прысылаць іх усё болей на зямлю беларускую і ўкраінскую, у чужую для іх старонку, дзе ім было б трудна чэсна наладзіць гаспадарку і дзе мясцовыя людзі не адтрымалі яшчэ з зямельнай рэформы ані загончыка, — „Вызваленьне“ пачало пратэставаць проці гэтага. Дзеля гэтага ў апошні час пачалі зямлю даваць і людзям тутэйшым, устрымалася калёнізацыя людзей нятутэйшых, а калі „Вызваленьне“ на выбарах выйграе, дык кожны жаўнер адтрымае зямлю ў сваёй старонцы — непадалёк ад свае сямьі — а тутэйшую зямлю будуць дзяліць паміж тутэйшых.

За гэта напалі на „Вызваленьне“ эндэкі ды хястоўцы, агітуючы між жаўнерамі: „бачыце — вызваленцы ня хочуць за вашы труды і раны даць вам зямлі, вызваленцы вядуць барацьбу з вамі, не галасуйце, дэмобілізаваныя жаўнеры, на „Вызваленьне“, бо гэта бальшавікі, гэта ворагі Польшчы“. Некаторыя аседнікі і дэмобілізаваныя жаўнеры паверылі, што мы вядзем барацьбу з імі, а ня з тымі, хто іх бедных высылае з іхняга краю, і будуць галасаваць проці нас, проці „Вызваленьня“! Ну, што-ж рабіць! — пакуль усе аседнікі зразумеюць, хто іх сапраўдны прыяцель, можа й будуць галасаваць проці нас. Але справядлівасьць прымушае нас быць абаронцамі і тутэйшага насяленьня.

За ўсё гэта ўсюды нас прасьледуюць і ўсе проці нас агітуюць. За ўсё гэта шмат хто з вызваленцаў сядзіць у вастрозе, за гэта вядомы вызваленец Уладыслаў Шакун (беларус) сядзеў у Стжалкове за калючымі дротамі, Галавача (беларуса) колькі разоў арыштоўвалі, так сама шмат яшчэ хто з вызваленцаў-беларусаў і палякаў цярпеў ня долю.

За гэта самае й нашу газэціну прасьледуюць, ніштожаць, а навет канфіскуюць і зачыняюць. За гэта рэдакцыю нашу пацягнулі да судовай адказнасьці

Але ўсё гэта нас не палохае, бо мы ведаем, што праўду заўсёды прасьледуюць, што за праўду трэба часам цярпець, што ў канцы канцоў справядлівасьць верх возьме. А сярмяжны народ польскі, беларускі і ўкраінскі

**Вызваленцы! Ужо ведама, які будзе наш нумар на выбарах. Наш сьпісак будзе мець нумар 3 (ТРЫ). Дык усюду сьмела галасуйце на 3. Толькі 3 павінен перэмагчы. Толькі 3 дасьць селяніну зямлю, асьвету і уладу!**

усё болей ды болей гуртуецца каля „Вызваленьня", ідзе разам у вялікай барацьбе за зямлю, асьвету і уладу — і гэта нас цешыць, і гэта прымушае нас верыць, што, хаця шмат маем ворагаў, аднак —

**Вызваленьне пераможа!**

---

## Дренна робіць ксёндз Адам Станкевіч.

Адна рэч вельмі нас засмучвае і хаця надта прыкра аб ёй пісаць, але мы прымушаны зрабіць гэта, бо нашы чытачы-вызваленцы з розных куткоў дамагаюцца гэтага ад нас.

Мы заўсёды згодна жылі з беларускімі палітычнымі партыямі. У сваіх газэтах беларусы заўседы пісалі аб нас, як аб блізкіх прыяцялях, як аб ядынай партыі, якая ўзапраўды справядліва думае і працуе. Як было якое нацыянальнае сьвята, або іншая важная справа, беларускія партыі заўсёды прасілі нас у госьці, як сваіх братоў, прыяцеляў, з якімі разам трэба быць і ў смутку, і ў радасьці.

І мы, вызваленцы, ніколі не здрадзілі гэтай прыязьні, мы заўсёды былі верныя і памяталі, што беларускім партыям жывецца яшчэ цяжэй, што іх у іхняй працы яшчэ болей праследуюць.

Калі Начальнік Дзяржавы Пілсудскі загадаў выбары ў новы Сойм, беларускія партыі прасілі нас, каб мы разам з імі ішлі да выбараў, каб злучыць усе сялянскія галасы. Мы адказалі: добра! будзем сабе памагаць, ня будзе між намі сваркі. І вы, і мы ня маем грошай на выбары, але як злучымся, дык будзем мацнейшыя і лягчэй дамо раду з панамі. А тымчасам ужо 3 тыдні як кс. Адам Станкевіч, беларус, пачаў друкаваць сваю газэтку „Крыніцу" і ужо 3 тыдні як з усей сілы на нас нападае. Мы надта зьдзіваваліся. Што ж гэта? Чаму ксёндз Станкевіч не змагаецца з панамі, пястоўцамі, Людовымі Радамі, а з намі? Дзеля чаго ад прыязьні адразу перайшоў да ненавісьці, да брахні, і разьбівае сялянскую еднасьць?

А вось паказалася, што кс. Станкевіч і колькі яшчэ іншых, бачучы, што мы вызваленцы ня маем на выбары грошай, пайшлі да купцоў і жыдоўскіх рабінаў, а так сама да нямецкай буржуазыі ды зрабілі з імі хаўрус. Немцы і Жыды далі грошы на выбары, а кс. Станкевіч відаць абяцаўся пісаць брахню на „Вызваленьне" і разьбіваць сялянскую еднасьць. Усім хіба ясна, што пры выбарах злучаюцца тыя, хто мае супольны інтэрас, супольнага ворага. А няхай нам кс. Станкевіч адкажа, ці бліжэй беларускага сяляніна купец і рабін жыдоўскі, ці бедны, гэтак як і ён пакрыўджаны польскі мужык? Што беларускі селянін мае супольнага з жыдоўскімі і нямецкімі крыўдзіцялямі? Як мы спыталіся, чаму вы змагаецеся з намі, дык прыяцялі кс. Станкевіча адказалі: мы баімося, што народ усе галасы аддасьць на „Вызваленьне", а апроч таго мы павінны былі зрабіць хаўрус з жыдамі, бо яны даюць нам грошы.

Вось як! Дык дзеля грошай кс. Станкевіч здрадзіў сялянства? А чаму-ж „Вызваленьне" бяз грошай пачало змагацца з багатымі ворагамі — панамі, і дае сабе раду, так што навет кс. Станкевіч баіцца, што не пападзе ў Сойм, бо сялянства ідзе за „Вызваленьнем"?

Нячыстая справа! Гэтакія выкруты нічога ня варты!

І што-ж ксёндз думае? Ці як ён сам і навет колькі яго прыяцеляў пападуць у Сойм, дык адразу яны ўсё пераменяць, направяць, дык так адразу ўжо ня будзе прасьледаваньня беларусаў? Няўжож колькі вашых галасоў на агульны лік 444 будуць мець важнае значэньне? Не! будуць мець значэньне і здолеюць спыніць несправядлівасьць толькі Вызваленцы, якія ўва ўсей Польшчы, а не ў некалькіх паветах, як кс. Станкевіч, вядуць выбарную барацьбу і, калі народ не паверыць брахні кс. Станкевіча, дык выйграе на гэтым і беларускае, і польскае сялянства.

Як у Сойме будзе рашацца нейкая важная для тутэйшага насяленьня справа, дык да каго пойдзе кс. Станкевіч прасіць помачы? Няўжож да купцоў і фабрыкантаў жыдоўскіх або нямецкіх? Не! Бо-ж яны і ў першым Сойме заўсёды галасавалі разам з польскай буржуазыяй. (Памятаеце, чытачы, справу табачнай манаполіі калі проці сялян і работнікаў згодна галасавалі ксёндз Адамскі і ксёндз Мацяевіч, польскія паны і фабрыканты, а так сама жыды і немцы!) Напэўна ў гэтакіх здарэньнях кс. Станкевіч, калі ня згодзіцца галасаваць разам з польскай „чорнай сотняй"—з кс. Мацяевічам і кс. Адамскім (ксяндзы заўсёды вельмі з сабой згодны!), дык прыйдзе прасіць помачы ў Вызваленцаў!

Хай сабе піша цяпер кс. Станкевіч што хоча ў беларускай „Крыніцы", мы злом за зло не адплоцім, мы, як цяпер, так і заўсёды будзем бараніць тутэйшае сялянства, бо мы самыя выйшлі з гэтага народу, бо мы не прыблуды ані з Варшавы, ані з Кракава, як Людовыя Рады або Пястоўцы. Але хай кс. Станкевіч, пішучы цяпер аб нас няшчыра, памятае, што яго „Крыніца" толькі разьбівае селянскую еднасьць, што, калі мы будзем сварыцца, дык скарыстае з гэтага пан эндэк або кулак-пястовец.

Мы заўсёды казалі, што ксяндзы не павінны мяшацца ў палітыку, хай аны ляпей спаўняюць свае абавязкі ў касьцеле. Мы гэта раім ня толькі польскім ксяндзам, але гэтак сама і літоўскім ды беларускім. Кс. Адам Станкевіч усюды прапануе сябе на пасла, а ў апошнім нумары „Крыніцы" (№ 3) піша аб гэтым у стацьці „Якіх нам трэба паслоў". А мы кажам, што ляпей-бы было, каб далей сядзеў пад анякунскімі скрыдламі біскупа Матулевіча, бо як пачне ў Сойме бараніць каталіцкі касьцёл, дык напэўна пасварыцца з праваслаўнымі, бо-ж ведама, што каталіцкія ксяндзы, асабліва беларусы, хочуць заўладаць бела-

## Паведамеце усіх суседзяў і знаёмых, што „Вызваленьне“ мае нумар 3.

рускай царквой. А калі ўжо ён лічыць безумоўна патрэбным, каб ксёндз быў пaслом, дык чаму-ж гэтым паслом павінен быць ён, кс. Станкевіч, які заўсёды рабіў толькі „вялікую палітыку“ (як меў ад каго грошы), а не, напрыклад, кс. Пятроўскі (так-сама беларус), які ўжо цярпеў зьдзек адміністрацыі і каторамў сялянства болей верыць.

На канец кажу яшчэ раз: мы ня верым ксяндзам, якія хапаюцца за палітыку. Там, у Польшчы, ёсьць адзін ксёндз, якому верыла сялянства, бо думала, што ён шчыра змагаецца з панамі. Завецца ён кс. Оконь. А цяпер паказалася, што гэтага кс. Оконя падкупілі пястоўцы і эндэкі, каб ён сваей пекнай гутаркай разьбіваў „Вызваленьне“. Дык цяпер кс. Оконь езьдзіць не на панскія або пястоўскія мітынгі, каб разьбіваць іх, а на сходы вызваленцаў і там, прытвараючыся амаль што не бальшавіком, разьбівае сялянскую еднасьць — і навет ужо кроў братняя ў колькі мясцовасьцях палілася.

Я, як пішу, нават вельмі непрыемныя рэчы, дык падпісываю сваім уласным прозьвішчам а ня так, як кс. Станкевіч у сваей „Крыніцы“, агітуючы за самога сябе або пішучы няпраўду аб „Вызваленьні“ — падпісываецца рознымі выдмадуымі прозьвішчамі

С. Ваяводзкі.

## Наш сьпісак будзе называцца: P. S. L. „Wyzwolenie“ і „Lewica Ludowa“.

## Паслухайце!

Настаў час, калі наша будучына ў нашых руках, але мы яе дзяржаць ня хочам, мы дрэмлем, мы чакаем. А ворагі нашы усякімі хітрыкамі нас калышуць; сьпі працоўны народзе, нашто табе ведаць, што ёсьць „Вызваленьне“.

А пасьля выбараў схамянешся, але будзе позна, падзеляць цябе на дробныя партыі пры выбарах. Самі злучыўшыся будуць паслоў выбіраць і ў будучым Сойме ўзноў панаваць. А ты браце — далей гора гараваць. Каб гэта-ж ня было, Браточкі — адна рада: ё ў нас вялікая грамада „Вызваленьне“—партыя сялян і дробных хлебаробаў мяшчан. Каторая працуе шчыра гадзін ня восем, але часта навет дваццаць.

Браточкі, настае хвіліна
Сказаць мы мусім,
Што мы людзі рабочыя,
А ня панская скаціна.
Будзяу Вас браты!
Пара нам прасынуцца,
Вочы працерці,
Кругом аглянуцца.
І верна, спакойна
Няма што чакаці—
Цераз выбары да Сойму
У рукі ўладу браці.
З уладай зямліцу
Багацьця крыніцу,
Што пан так марнуе,
Бо сам не працуе
Ляжыць яна адлогам,
Аж страшна глядзець,
Ты араць хочаш,
А пан не даець.
Вот ня сьпі ж—ты, браце,
І, водлуг сумленьня
Ідзі шукай шчыра
Свайго „Вызваленьня,“
Бо, як прасьпіш, браце,
Гэтыя часіны,
Праз пяць гадоў новых
Будзеш як скаціна.
За загончык лёну
Тры дні будзеш жаці,
Каб на свае плечы
Сарочку саткаці
А калі ты браце,
Панком не прадаўшысь,
Чыстату сумленьня
Свайго захаваўшы,
Пойдзеш, брат, з народам,
То й наша зямліца
Хоць ня будзе раем,
Дык хоць агародам.
Каб на тэй зямельцы
Сеяці насеньне,
Галасуйце дружна
Усе за „Вызваленьне“.

Галавач.

## Делегацыя „Вызваленьня“ у Міністра Унутраных Спрау.

Часта мы пісалі аб зьдзеках адміністрацыі і паліцыі. Каб мы маглі пісаць аба ўсім ведамых нам гвалтах над насяленьнем, каб мы друкавалі ў нашай газэце ўсе жальбы ды пісьма, дык трэба было-б шмат павялічыць нашу часопісь і толькі аб гэтым пісаць.

Дзеля таго мы пішам толькі аб вялікшых несправядлівасьцях і гвалтах. Але гэта мала памагае і што раз болей плыве да нас з усіх старан наракеньняў на дзікую расправу, біцьцё народу і г. п. крыўды. Нішто не перэмяняецца на лепшее.

Вышэйшая ўлада мусіць не чытае нашай сялянскай часопісі, відаць, што яна не цікавіцца тым, што дзеецца на вёсцы, як „хораша“ абыходзяцца з сялянствам чыноўнікі і паліцэйскія. Дык, каб яшчэ раз зьвярнуць на гэта увагу ўраду, каб дабіцца якой колечы абароны, Галоўнае Праўленьне „Вызваленьня“ паслала да п. Міністра Унутраных Спраў Камінскага дэлегацыю зложаную з пасла вызваленца *Рудзінскага*, рэдактара *Ваяводзкага* і грам. *Дрэўніцкага*, нашага сакрэтара ў Валожынскім пав., каторых п. Міністар прыняў 16 верасьня і з якімі гутарыў праз цэлую гадзіну.

Пасол Рудзінскі разсказаў аб страшэнным становішчы тутэйшага насяленьня, якое нідзе ня можа знайсьці абароны. Пасол Рудзінскі зажадаў ад Міністра каб ён зьвярнуў на гэта ўвагу, бо, калі гэтак будзе й далей, дык насяленьне можа быць даведзена да распачы.

Рэдактар Ваяводзкі разсказаў Міністру аб тым, што дзеецца ў Сьвянцянскім пав., дзе, напрыклад, у Свірскай воласьці катавалі ў двары Сьвір Ляцкоўскі 14 сялян з вёскі Болькаўшчызна ; гэтае самае было й ў мяст. Чурлёны.

Далей разсказваў аб тым, што дзеецца ў Лідскім пав. — у Новадворскай гміне каля Начы, дзе катуюць людзей, як у часы Івана Грознага, а так-сама аб дзельнасьці паліцыі пад Горадняй у вёсцы Чэшчаляны,

аб чым мы напішам у нашай часопісі абшырна. Дайшло да таго, што цяпер у час пасля вайны, у дэмократычнай народнай рэспубліцы людзі хаваюцца ў лясох, як гэта дзеецца ў Валожынскім пав., вол. Лугмовіцкай — аб чым апавядаў Міністру граж. Доэўніцкі, каторага гэтыя жыхары, баючыся пакінуць лясы, прасілі, каб ён паехаў у Варшаву шукаць для іх паратунку.

Міністар запісаў усё гэтае безпраўе і абяцаў скора зрабіць сьледства.

Будзем чакаць, дай Божа, якогась чэснага ўрадніка або якуюсь чэсную камісыю, якая можа аблегчыць нядолю пакрыўджаных змучаных людзей.

Мы хочам запытацца іншыя газэты, асабліва тыя, якія гэтак голасна крычаць аб зямельнай рэформе, як напр. „Ziemia Wileńska" і „Nasza Wola" пястоўцаў, чаму яны нічога ня пішуць аб гэтых гвалтах, чаму маўчаць. Ці можа дзеля таго, што за гэтыя гвалты трэба пацягнуць да адказнасьці іхніх людзей, як напр. пана Некраша, вітасоўца, Сьвенцянскага старасту!

## Хто абяцае, а хто датрымоувае.

Цяпер, калі пачынаюцца выбары, не адзін кандыдат, не адна партыя абяцае залатыя горы і зямны рай, калі толькі падаць за іх голас. Гэтак робяць эндэкі, пястоўцы, „радзюкі". Гэтак рабілі ўжо пры выбарах у Віленскі Сойм.

Эндэкі, калі іх выбралі, авечую скуру скінулі, а паказалі сваё воўчыя зубы проці народу й зямельнай рэформы, калі навет павыходзілі з сэлі, каб ня чуць аб гэтакай страшнай рэчы, як зямля для мужыка.

„Радзюкі" (Рады Людовыя) шмат гаварылі аб сялянскіх патрэбах, але ў Віленскім Сойме здрадзілі народ, пашлі з панамі эндэкамі і не пазволілі правесьці нашых — „Вызваленьня—Адраджэньня"—пастановаў аб прыпыняшэньні зямельнай рэформы, аб арэндатарах, аб колёністых, а пястоўцы не баранілі цьвёрда сялянскіх правоў і ў варшаўскім Сойме навет не пацікавіліся справамі арэндатараў і ня былі ў камісіі, так што прапазыцыі правых адкінуць абарону арэндатараў прайшлі проці нашых галасоў.

Гэтак сама будзе й цяпер пры выбарах. Перад выбарамі кожны добры—але пасьля...

Пасьля хай сабе „хамы" сумуюць калі, пачуюць панскі бізун на сваёй скуры — гэтак сабе шэпчуць сягоньня эндэкі паціху.

Трэба быць страшэнна асьцярожным пры выбарах, бо лёгка ашукацца.

Мала яшчэ слухаць, што кандыдат гаворыць, трэба падумаць ды й глядзець, як тая партыя, да якой належыць кандыдат, трымалася ў Сойме віленскім і ў Сойме варшаўскім. Ці рабіла што для народу, ці ня здрадзіла інтарэсаў селяніна й работніка, ці заўсёды стаяла на старане працоўнага народу.

Кандыдат часамі можа сам шмат абяцаць, але ці зможа датрымаць слова, калі будзе ў Сойме, калі яму партыя не пазволіць? Знаем напрыклад чэсных людзей у пястоўцаў Вітоса, якія хацелі-б нешта добрае зрабіць, але-ж калі ўжо ўлезьлі да гэтай гнілізны „P. S. L. Piast", дык ужо ў ёй і топяцца.

Гэтак віленскія паслы вітосоўцы гал савалі проці таго, каб даць поўную меру месцаў пасло́м нашых земляў „акраінаў", бо варшаўскія тавары́шы вітосаўцоў гэтак хацелі і галасавалі проці аўтаноміі Усходняе Галіцыі, хаця ў нас аб гэтым крычалі дый шмат іншых рэчаў зрабілі ня так, як гаварылі перад выбарамі. І гэта таму, што іх партыя вельмі подлая.

Толькі „Вызваленьне" цьвёрда бараніла ў Сойме народныя правы, толькі „Вызваленьне" старалася трактаваць бяз розьніцы кожнага селяніна, ня гледзячы на мову і веру, толькі „Вызваленьне" верыла й верыць шчыра ў вялікую будучыну народнае Польшчы.

Але што магло зрабіць „Вызваленьне" ў Сойме, маючы 24 паслы на 432? Вельмі мала. Бо калі мае проці сябе й народу ўсіх правых, а няма ніякай поўнасьці, ці Вітос з іншымі радзюкамі пойдуць за справядлівасьцю і не дадуцца, каб ачмуцілі іх паны эндэкі, дык праца вельмі трудная.

Дзеля гэтага ў будучым Сойме павінна быць шмат, вельмі шмат народных паслоў, паслоў „Вызваленьня", а ўсіх левых павінна быць большасьць, каб напраўду можна было правесьці справядлівыя правы і ўладу.

Праз гэта, каб кандыдат абяцаў, што заўтра будзе дождж, а пазаўтра пагода, дык ніхто яму не паверыць. Ён толькі можа старацца зьвязсьці жыта перад дажджом, а пасьля дажджу пад сеяць.

Гэтак сама й мы, абы толькі нашая воля хацела, дык даўно сьвет пабудавалі-б на справядлівасьці.

Але гэта ад нас не залежыць, а ад вас, ад усіх вас — выбаршчыкаў.

Дзеля гэтага мы не абяцаем, а тлумачым. Тлумачым, што ў народзе вялікая сіла.

Калі народ падасьць галасы за сваіх паслоў, за „Вызваленьне" й калі будзе ў Сойме большасьць прадстаўнікоў шчырых сялян і работнікаў, дык усе добрыя ўрады, аб якіх гаворым і пішам, усе добрыя правы правесьці зможам. Але калі народ дасьць сябе ашукаць і выбярэ панскую большасьць, дык нічога ня выйдзе.

Мы будзем бароцца й рабіць сваё, але яны могуць зрабіць так, што ўсё гэта будзе дарэмным.

Дзеля гэтага можам абяцаць толькі тое — што будзем рабіць і што ў гэтым зьмены няма — але рэзультат і ўвядзеньне ў жыцьцё новых добрых думак і правоў, правядзеньне парадку й чэснасьці і ўва ўрадзе і ў урадніках залежыць не ад кандыдатаў, але ад усяго народу.

Аб эндэках ды няшчырых пястоўцах і здрадлівых „радзюках" ведаем, што не датрымаюць слова напэўна — дык выбірайце. Але калі выбярэце эндэцкую большасьць, дык майце пратэнсію да самых сябе, што даліся ашукацца. Самі будзеце вінаваты за сваю бяду.

Праз гэта эндэцкім ды пястоўскім абяцанкам ня верце, а выбірайце сваіх „Вызваленцаў", што не абяцаюць, а тлумачаць, як зрабіць, каб можна было датрымаць.

Л. Х.

---

Рэдактар Выдавец С. Ваяводзкі. Друк. Е. еўскага у Вільні.